© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012


# ПАГОНЯ

*РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

*№ 17(72)* *3–9 чэрвеня 1994 г.* *Кошт 150 руб.*


*Крэмль зацікаўлены мець у нас залежнага ад Масквы прэзідэнта, каб інкарпараваць Беларусь у Расею.*

*Камуністы расстралялі ўвесь інтэлектуальны патэнцыял. Дык хто сёння зьяўляецца інтэлігентам?*

*Так жыць больш нельга, хопіць варожасьці. Хто нарадзіўся на гэтай зямлі, усе зьяўляюцца яе дзецьмі.*

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква.*

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК. НЯМА СУМНЕНЬНЯЎ, ШТО ЁН ВЫЙГРАЕ ПРЭЗІДЭНЦКУЮ ГОНКУ

У штаб-кватэры БНФ адбылася прэс-канфэрэнцыя лідараў руху па вынікам першага этапа збору подпісаў у падтрымку кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Беларускай дзяржавы. Як зазначыў сакратар управы БНФ В.Вячорка, кіраўніцтва Фронту задаволена вынікам збору подпісаў. За ўнясеньне ў сьпіс кандыдата ў прэзідэнты лідара БНФ Зянона Пазьняка падпісалася 226 214 грамадзян Беларусі. Болей подпісаў сабраў толькі прэм'ер-міністр В.Кебіч, на якога працаваў практычна ўвесь апарат выканаўчай улады. Таму кіраўніцтва БНФ лічыць, што ў параўнаньні з другімі прэтэндэнтамі найбольш папулярны ў грамадзтве Зянон Станіслававіч. Сакратарыят управы Фронту прыняў спэцыяльную заяву, у якой прапануецца ўсім прэтэндэнтам ад дэмакратычных партый і плыняў разгледзець магчымасьць аб зьняцьці сваіх кандыдатур на карысьць З.Пазьняка. У іншым выпадку, драбленьне галасоў выбаршчыкаў паміж кандыдатурамі дэмакратычнай арыентацыі можа прывесьці да перамогі рэакцыйных імпэрскіх сілаў.

**СІМ.**

## НА ПАРУШЭНЬНІ ГЛЯДЗЕЛІ СКРОЗЬ ПАЛЬЦЫ

**"Калі гэты артыкул пабачыць сьвет, ужо будуць вядомыя імёны афіцыйна зарэгістраваных прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду. Тым ня менш, на вялікі жаль, законнасьць рэгістрацыі некаторых з іх пад вялікім сумненьнем. Асноўная прычына - падчас збору подпісаў у падтрымку гэтых прэтэндэнтаў быў дапушчаны цэлы "букет" парушэньняў закону "Аб выбарах прэзідэнта". Выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў не захацелі заўважыць гэтыя парушэньні."**

**З такога сцьвярджэньня пачаў сваё інтэрв'ю нашаму карэспандэнту сябра Гарадзенскай вабласной камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.С.ТАЛЕРЧЫК.**

**- Аляксандр Сямёнавіч, Вы адзіны з сяброў камісіі, хто не засьведчыў сваім подпісам праўдзівасьць зьвестак аб ходзе падпісной кампаніі на Гарадзеншчыне.**

- Пратакол я падпісаў з заўвагамі - не хацелася вельмі жорсткай пазіцыяй замінаць прэзідэнцкай кампаніі, бо была надзея, што мае заўвагі, якія я аформію як Заяву ў Цэнтральную камісію, апэратыўна разгледзяць і прымуць меры. Спадзяваньні былі марнымі.

**- Пра што Вы паведамілі ў Цэнтральную камісію? Ці ня можна было вырашыць пытаньне на ўзроўні вобласьці?**

- На пасяджаньні вабласной камісіі 25 мая мною былі пастаўлены пад сумненьне вынікі збору подпісаў па Гарадзенскаму раёну, у прыватнасьці, за В.Кебіча. Як паведаміла нам старшыня Гарадзенскай раённай камісіі Л.І.Кадзевіч, яны скасавалі 6 падпісных лістоў з 142, якія былі сабраныя за Вячаслава Францавіча. Такая лічба аніяк не стасавалася з вынікамі папярэдняй праверкі, якую я сам рабіў у Гарадзенскім і іншых раёнах вобласьці.

У Гарадзенскім раёне з 71-го праверанага ліста з подпісамі за В.Ф.Кебіча было выяўлена 34 лісты, якія аформлены з відавочнымі парушэньнямі Закона. Чаго варты хаця б прыклад, калі выбаршчыца А.Д.Цярэшка замест свайго подпісу напісала слова "Кебіч". А сябра ініцыятыўнай групы М.С.Бушкевіч засьведчае гэтую фальшыўку сваім подпісам. Больш таго. Тое самае робяць і ў Капцёўскім сельсавеце...

Аналагічнае становішча й па некаторых іншых прэтэндэнтах. З 49 правераных мною лістоў з подпісамі за А.І.Дубко 36 лістоў (73% !) мелі подпісы аднаго выбаршчыка за другога. У той жа час агульны працэнт скасаваных раённай камісіяй лістоў з подпісамі за А.І.Дубко складае толькі лічбу 11...

Падобныя прыклады можна прыводзіць бясконца... І ня толькі па Гарадзенскаму раёну. Скажам, старшыня Лідзкай раённай камісіі нават сам паведаміў, што лісты, дзе меліся подпісы жонкі за мужа ці дзяцей за бацькоў (і наадварот), палічаны іхняй камісіяй як сапраўдныя, хаця рабіць так Закон катэгарычна забараняе...

На падставе вышэйпамянёных фактаў я папрасіў дазволу ў сяброў вабласной камісіі даць мне права й магчымасьць праверыць дакладнасьць пратакольных лічбаў. Прапанова была аднагалосна... адхілена. Вось аб гэтым я й напісаў Старшыні Цэнтральнай камісіі Абрамовічу й перадаў гэтую заяву нашаму Старшыні А.С.Саўчыку.

**- І які гэта мела вынік?**

- Практычна ніякага. На наступны дзень мне ў вуснай форме паведамілі, што я магу прыступаць да праверкі. Але неўзабаве затэлефанавалі й сказалі, што загадам з Менску мне забаранілі гэта рабіць.

**- Чаму?**

- На мой запыт спадар Абрамовіч паведаміў, што скончыліся тэрміны, адведзеныя Законам на праверку сапраўднасьці подпісаў. Высьветлілася таксама, што мая заява яму своечасова перададзена не была.

**- Як Вы ацэньваеце тое, што адбылося?**

- Мягка кажучы, як прафанацыю важнай справы й нахабную бездказнасьць. На людзей, асабліва ў сельскіх раёнах, уладнымі структурамі аказваўся рознага роду ўціск. Гэтым яны займаліся ў службовы час, карысталіся службовым транспартам. У той самы час для праверкі сапраўднасьці подпісаў іншы раз гэты транспарт трэба было шукаць днём з агнём.

Калі на такім узроўні будуць арганізаваныя і самі выбары, то гэта будзе не волевыяўленьне народа, а спэктакль, сцэнар якога загадзя напісаны людзьмі, што знаходзяцца пры ўладзе.

## "ПАГОНЯ" ЗА ФІРАНКАЙ

Падставай для напісаньня гэтага артыкула сталі дзьве ўзаемавыключаючыя зьявы. У той самы час, калі нашыя чытачы "абарвалі" рэдакцыйны тэлефон просьбамі дапамагчы набыць чарговы нумар "Пагоні", бо ў кіёсках "Белсаюздруку" яго ўжо няма, кіраўніцтва гэтага ж самага "Белсаюздруку" прыслала паведамленьне пра тое, што штомесяц не распаўсюджваецца 10 працэнтаў ад накладу газэты. Адсюль і рэкамэндацыя - зьнізіць тыраж. На пытаньне, адкуль узяліся гэтыя 10 працэнтаў у той час, калі нават ня ўсе жадаючыя могуць набыць газэту, адказу ад нашых партнёраў мы не атрымалі. Таму й вырашылі самі разабрацца з гэтай праблемай.

Пятніца, 27 траўня, раніца. "Пагоні" N16 у кіёсках няма - яшчэ не завезьлі. Хаця быць павінна, бо ўчора, згодна з графікам, яна своечасова была падпісана да друку, аддрукавана й перададзена службе, якая займаецца распаўсюджваньнем газэт, у экспэдыцыю. Толькі бліжэй да 12 гадзін асобныя кіёскі пачалі яе атрымліваць...

Ужо пад вечар у пятніцу ў кіёсках каля крамы "Адзеньне", што на Савецкай плошчы й побач з кінатэатрам "Гродна" "Пагоні" не было - раскупілі. Даволі актыўна газэта разыходзілася і ў іншых кіёсках. А вось насупраць аблвыканкама - штыль. Няўжо супрацоўнікі гэтай установы не чытаюць "Пагоні"? А можа, уся справа ў тым, што ляжыць яна далёка не ў зручным месцы, недзе паміж "Русским вестником" і "Компасом", так, што нават назву не прачытаеш?..

Так ці інакш, але вечарам у панядзелак у Горадні "Пагоню" ужо было набыць цяжка. Поўнасьцю яна разышлася ў кіёсках па вул.Паповіча, Горкага, Савецкіх Пагранічнікаў, бульвары Ленінскага Камсамола... Пасьля доўгіх пошукаў сваёй газэты па гораду наш карэспандэнт, нарэшце, з цяжкасьцю заўважыў адзін адзіны экзэмпляр "на перыфэрыі" кіёска, які стаіць на Савецкай плошчы. "Астатнія ўжо распрадалі?" - задаў ён пытаньне. "Что Вы?" - зьдзівілася кіяскёр. - "Люди совсем не интересуются этой газетой." І рашучым жэстам яна адсунула фіранку за сваёй сьпіной, дзе сапраўды ляжаў некранутым стос "Пагоні". Давесьці ёй тое, што для таго, каб людзі зацікавіліся выданьнем, трэба хаця б пакласьці яго на вітрыну, было цяжка - размова вялася ў прамым і пераносным сэньсе на розных мовах. З аднаго боку, на беларускай, а з другога - на той, на якой друкуюцца сумнавядомыя "Мы и время", "Политика. Позиция. Прогноз.", якія, дарэчы, ганарова ляжалі ў гэтым кіёску на самым выгодным месцы, адштурхнуўшы ў бок нават "Народную газету" і "Звязду".

Няцяжка прадказаць, што прыхаваныя такім чынам экзэмпляры газэты ў канцы месяца зьявяцца ў графе "сьпісаньне". Рэдакцыя, заплаціўшы "Белсаюздруку" немалыя грошы за абслугоўваньне, атрымае, такім чынам, дадатковыя страты. А чытач, які даверыўся гэтай паважанай арганізацыі, застанецца без сваёй газэты. Каб пазьбегнуць гэтай прыкрай сытуацыі, на наш погляд, зусім не абавязкова зьмяншаць наклад "Пагоні". Лепей навесьці парадак ва ўласнай гаспадарцы: зрабіць перараэьмеркаваньне газэты па кіёсках, заставіць сваіх супрацоўнікаў выконваць службовыя абавязкі належным чынам, паставіць справу так, каб мясцовыя газэты траплялі ў кіёскі не праз 3-4 гадзіны пасьля адкрыцьця, а своечасова...

**М.ТУРАВЕЦ.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі Беларусі "Белсаюздрук"

**АБАНЭМЭНТ** на газэту 63124

"ПАГОНЯ" Колькасьць камплектаў 1

на 1994 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | Месца | літар

на газэту 63124

"ПАГОНЯ"

Кошт: падпіскі 4050 руб.; пераадрасоўкі руб. Колькасьць камплектаў 1

на 1994 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012







# ГРАМАДЗТВА ПЕРАД ВЫБАРАМ

**Як ні змагаліся Народны Фронт і грамадзтва Беларусі за адстаўку карумпаванага ўраду і за новыя выбары, намэнклятура, патаптаўшы ўсе законы й абяцаньні, дамаглася свайго. Парлямэнцкія выбары ў сакавіку не адбыліся. Народ у чарговы раз ашукалі. Каб неяк выратавацца ад непазьбежнага краху, яны дамагліся выбараў прэзідэнта. Разьлік просты: на нейкі час адцягнуць увагу людзей ад банкруцтва ўраду, выйграць прэзідэнцкія выбары й тым самым, умацаваўшы абсалютную ўладу мафіёзнай намэнклятуры, аднавіць таталітарны рэжым, падрыхтаваць выгадныя для сябе ўмовы правядзеньня выбараў у парлямэнт. Сцэнар гэты напісаны ў Маскве, якая праз свае спэцслужбы рэальна ўплывае на ўрадавую палітыку Беларусі. Крэмль зацікаўлены мець у нас марыянеткавага, фармальна легітымнага, але залежнага ад Масквы прэзідэнта, каб па кавалачках, захопліваючы маёмасьць і нашу нацыянальную ўласнасьць, інкарпараваць Беларусь у Расею.**

Разьдзел Канстытуцыі аб прэзідэнце прыняты з парушэньнем Закону і зарыентаваны выключна на канкрэтную асобу - Старшыню Савета Міністраў В.Кебіча. Згодна з гэтай Канстытуцыяй, усе істотныя ініцыятывы прэзідэнта (фармаваньне ўраду, прызначэньне й зьняцьце міністраў, аб'яўленьне надзвычайнага стану і г.д.) павінны зацьвярджацца Вярхоўным Саветам.У той жа час прэзідэнт ня мае права распусьціць Вярхоўны Савет і прызначыць новыя выбары. (Заўважым да таго, што закона пра прэзідэнта не існуе і паўнамоцтвы яго шмат у чым неакрэсьленыя. Вярхоўны Савет можа зьняць прэзідэнта з пасады па патрабаваньню 70 дэпутатаў).Такім чынам, калі прэзідэнтам становіцца "не Кебіч", ён будзе зьвязаны па руках і нагах гэтым Вярхоўным Саветам. Магчымасьці такога прэзідэнта невялікія. Калі ж ім стане Кебіч, то ён амаль аўтаматычна зканцэнтруе ў сваіх руках абсалютную й неабмежаваную ўладу. Бо гэты Вярхоўны Савет "у руках" Саўміна, які ўзначальвае Кебіч.

Вось тады наша грамадзтва ўзорна пераканаецца, што такое "рука Масквы" і бязьмежжа карумпаванай антынацыянальнай намэнклятуры. Аналягічная сытуацыя ўзьнікае і пры "прэзідэнце-тэрмінатары" (разбуральніку) Лукашэнку. З той хіба папраўкай, што развал і здача Беларусі пад Расею адбудуцца брутальна, груба й хутка.

Прэзідэнту "не Кебічу" прыйдзецца ўступіць у змаганьне з Вярхоўным Саветам, з Саўмінам, з усёй старой камуністычнай сістэмай. Тут шмат будзе залежыць ад яго палітычнай волі, рашучасьці, ад характару, нацыянальнай сьвядомасьці і сьветапогляду, бо гаворка ідзе аб выратаваньні нашай дзяржавы, незалежнасьці і свабодзе ад расейска-беларускай намэнклятурнай мафіі. Тут альбо перамога, альбо паражэньне. "Згода" не атрымаецца.

З усіх дрэнных прэзідэнцкіх варыянтаў, бадай, найгоршым ёсьць варыянт з Шушкевічам. Маючы выдатныя магчымасьці на працягу амаль трох гадоў, калі быў на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета, Шушкевіч паказаў аднак сваю поўную няздольнасьць да кіраваньня краінай і да рэальнай палітычнай дзейнасьці ў інтарэсах нацыі й дзяржавы. Стаўшы пры дапамозе БНФ на вышэйшую прыступку ўлады на Беларусі, ён адразу пачаў супрацоўнічаць з намэнклятурнай большасьцю ў Вярхоўным Савеце і напачатку карыстаўся поўнай яе падтрымкай (Кебіч валодаў тады толькі 150 галасамі. Для прыняцьця рашэньня трэба было 174).Менавіта тады Шушкевіч меў магчымасьць адправіць у адстаўку Кебіча, але адмовіўся ад барацьбы, стаў безпрынцыпна падыгрываць прэм'ер-міністру і ўраду.

Згодніцтва й прадажнасьць Шушкевіча прывялі да таго, што большасьць Вярхоўнага Савета апынулася пад поўным кантролем Саўміна і ўрадавай мафіі. Шушкевіч жа, раздаючы направа й налева блытаныя інтэрв'ю і прыстасоўваючыся пад намэнклятурную сілу, не паварушыў і пальцам, каб нешта зьмяніць, сфармаваць хоць нейкую бачнасьць палітыкі, нейкія прынцыпы. Ён не сабраў сваёй каманды, не аднавіў бюракратычны апарат Прэзідыума Вярхоўнага Савета, адмовіўся ад рэальнай работы, патапіўшы ўсё ў нястрыманым словаблудзтве.

У выніку ганебна разам з камуністычнай большасьцю задушыў рэфэрэндум аб роспуску Вярхоўнага Савета і нечарговых выбарах, душыў рабочы страйкавы рух на Беларусі ў красавіку 1991 г., паспрыяў аднаўленьню дзейнасьці КПБ і ў цэлым камуністаў, адмовіўся ад абароны нацыянальных інтарэсаў Беларусі перад прымусам уступіць у так званую "калектыўную бясьпеку", падпісаў з Ельцыным 27 студзеня 1992 г. рабаўніцкае пагадненьне аб бясплатным расейскім транзыце праз нашу краіну, пасьлядоўна перашкаджаў увядзеньню нацыянальнай валюты, дэманструючы ў канцы гатоўнасьць здаць і дзяржаву, і незалежнасьць, і нават мову - толькі б утрымацца на пасадзе.

Калі цяпер прэзідэнтам робіцца Шушкевіч, ранейшая сітуацыя паўторыцца ў значна горшым варыянце. Уся ўлада й магчымасьці, як і раней, застаюцца ў Саўміна (у Кебіча) і Вярхоўнага Савета. Шушкевіч жа, атрымаўшы службовы "мэрсэдэс" і ўсю ўладную мішуру, зноў пачне казаць, што ён абмежаваны Канстытуцыяй, што ня мае праву, што "ўрад працуе добра" і г.д. Ня будзе ніякіх рашучых дзеяньняў і ніякай разумнай дзяржаўнай палітыкі.

Для карумпаванай намэнклятуры такое становішча найдрэнне. Бо яны зноў будуць рабіць тое, што захочуць, але стануць прыкрывацца пры гэтым, нібы шырмай, быццам бы "дэмакратам" Шушкевічам. Для беларускага ж грамадзтва гэты варыянт, як мы ўжо адзначылі, найгоршы. Найгоршы таму, што ў грамадзтве яшчэ захоўваецца ўяўленьне пра Шушкевіча, як пра "памяркоўнага" дэмакрата, які ўсюды шукае "згоды" (хаця якая можа быць "згода", скажам, паміж злодзеем і тым, каго абакралі). Выбраньне Шушкевіча дэзарыентуе й расслабіць людзей, раззброіць іх перад небясьпекай. Яны супакояцца й зноў стануць чакаць: ну вось, маўляў, цяпер "дэмакрат" Шушкевіч усё зробіць. У сапраўднасьці ж ён ня зробіць нічога, але мафію гэтым самым міжволі прыкрые. Пасьля яго правалу вінаватымі зноў жа апынуцца "дэмакраты". Пра гэта намэнклятура залямантуе адразу. Грамадзтва ж нашае ў такім выпадку апынецца дэзарыентаваным, дэзарганізаваным і ня здольным да змаганьня за сваю краіну, за свае правы.

Пры варыянце "прэзідэнт Кебіч" ня будзе ні двухсэнсоўнасьці, ні шырмы. Людзі зразумеюць, што намэнклятурная мафія перамагла. У выніку ў грамадзтве аб'ектыўна ствараюцца ўмовы для шырокай апазыцыі, мабілізацыі сілаў і самаарганізацыі народа. А гэта, згадзіцеся, лепш, чым сьляпы параліч перад ілюзіяй.

Увогуле, ўсе тры адмоўныя варыянты прэзідэнцтва (Кебіч, Лукашэнка, Шушкевіч) нядоўгатрывалыя. Усё праваліцца даволі хутка. Адсутнасьць патрэбных эканамічных рэформаў і халуйства перад Масквой і расейскай мафіяй зробяць сваю справу. Аднак існуе агульная небясьпека ва ўсіх трох разбуральных варыянтах - небясьпека страты агульнанацыянальнай уласнасьці і нацыянальнай незалежнасьці Беларусі.

Павінна быць такая палітыка й да ўлады павінны прыйсьці такія асобы, якія захаваюць дзяржаву Беларусь, гарантуюць яе суверэнітэт, правядуць патрэбныя эканамічныя рэформы й палепшаць жыцьцё людзей.

Беларускі Народны Фронт рыхтуецца выступаць супраць адмоўных кандыдатаў у прэзідэнты - Кебіча, Лукашэнкі,Шушкевіча - кандыдатаў намэнклятуры, разбурэньня й здрады. Управа БНФ 22 сакавіка разаслала інфармацыйны ліст для арганізацыяў БНФ, дзе адлюстравала палітычную пазыцыю Фронта. Канстатуецца, што некаторыя палітычныя сілы сярод дэмакратаў пачалі арганізацыйную дзейнасьць па выбарах задоўга да выбарчай кампаніі і пасьпяшаліся аб'явіць пра сваіх кандыдатаў у прэзідэнты, не правёўшы перад гэтым між сабой і БНФ аніякіх кансультацыяў і не зрабіўшы нават захадаў да такіх кансультацыяў.

Так зьявілася кандыдатура Шушкевіча, якую падтрымліваюць БСДГ і АДПБ. Трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што мы ня лічым Шушкевіча дэмакратычным кандыдатам і "ня можам у чарговы раз, - як сказана ў лісьце, - падтрымліваць і ўздымаць да вярхоўнай улады чалавека, які, меўшы ўладу, чыніў здраду за здрадай свайму народу... Мы ня можам несьці палітычную адказнасьць перад народам за гэтага непрадказальнага й слабавольнага палітыка." Але адначасова мы адзначаем, што кожная партыя мае права выстаўляць свайго кандыдата й зьбіраць за яго подпісы. БНФ ня будзе нікому ў гэтым перашкаджаць і ніколі не стане крытыкаваць за іх пасьпешную ініцыятыву, памятаючы пра адзінства дэмакратычнага руху. Народны Фронт будзе зьбіраць подпісы й агітаваць толькі за свайго кандыдата.

Мы ўсьведамляем тое, што БНФ ёсьць адзіная пазытыўная, канструктыўная сіла на Беларусі. Ні ўрад, ні Вярхоўны Савет, ні хтосьці іншы ня маюць пасьлядоўных, станоўчых праграмаў разьвіцця дзяржавы, эканомікі, выхаду яе з крызісу, ня маюць станоўчых дасягненьняў і рэальных прагнозаў. Беларускі Народны Фронт - гэта адзіная рэальная і пасьлядоўная антыкамуністычная апазыцыя антынароднаму намэнклятурнаму рэжыму, якая, абараняючы інтарэсы народа, ніколі не ішла ні на якое згодніцтва й супрацоўніцтва з гэтым рэжымам. БНФ выступае як супраць камуністычнай, так і "дэмакратычнай мафіі".

Намі разгледжаны асноўныя варыянты, якія могуць стварыцца ў другім туры выбараў. Калі ў другі тур трапляе дэмакратычны кандыдат, а кандыдат БНФ не праходзіць, то Народны Фронт павінен падтрымліваць дэмакратычнага кандыдата. Калі ж праходзяць пары адмоўных кандыдатаў, скажам, Шушкевіч і Кебіч ці Кебіч і Лукашэнка й г.д., то Народны Фронт павінен агітаваць супраць і выкрэсьліваць абодвух гэтых кандыдатаў. Тут няма выбару. Нельга выбіраць у гэтай сітуацыі таксама паміж большым і меншым злом. Вынік усё роўна будзе разбуральны. Народны Фронт павінен дбаць пра сваю палітычную будучыню й даражыць даверам людзей. Тым больш, што наперадзе галоўнае - парлямэнцкія выбары, а ўлада намэнклятуры ўсё роўна абваліцца.

Незалежна ад таго, як будуць паводзіць сябе на выбарах нашы антаганісты, сатэліты й саюзьнікі, Беларускі Народны Фронт, зыходзячы з традыцыяў сваёй маральнай палітыкі, павінен, як заўсёды, паставіцца паважліва, стрымана й карэктна да сваіх сапернікаў на выбарах, асабліва ў дачыненьні да прадстаўнікоў дэмакратычных арганізацыяў, з якімі нас лучаць шмат агульнага. Галоўнае — супольная задача зьберажэньня і ўмацаваньня нашай Бацькаўшчыны-Беларусі

НАША
ГАЗЭТА – ШТОТЫДЗЕНЬ
У ВАШАЙ
ХАЦЕ!

Падпіска на «ПАГОНЮ»
прымаецца
ва ўсіх паштовых аддзяленьнях.
Падпісны індэкс 63124.
Кошт на месяц – 1350 рублёў,
на квартал – 4050 рублёў.

## КІРАЎНІКІ КАНТРОЛЬНАЙ ПАЛАТЫ ВЫСЬВЯТЛЯЮЦЬ АДНОСІНЫ

Паступова накаляецца абстаноўка ў Кантрольнай Палаце Беларусі. Галоўная прычына таму - чарговае абвастрэньне адносін паміж яе Старшынёй В.Саковічам і яго намесьнікам В.Даўгалёвым, бо апошні пажадаў пайсьці ў адпачынак, каб прыняць актыўны ўдзел у выбарчай камісіі старшыні Партыі народнай згоды Г.Карпенкі.

Не сустракаючы паразуменьня з боку свайго кіраўніка, спадар Даўгалёў напісаў чарговую заяву на адпачынак, матывуючы яго неабходнасьцю таго, што зьбіраецца вылучыць сваю кандыдатуру на пасаду Прэзідэнта Беларусі. Саковіч зноў адмовіў, спаслаўшыся на незавершанасьць праверкі, даручанай Даўгалёву. Верагодна, у сілу гэтага Старшыня Кантрольнай Палаты не палічыў свайго намесьніка годным гэтай пасады. У адказ Даўгалёў напісаў ліст, у якім не пагадзіўся з аргумэнтацыяй Саковіча й патрабаваў задавальненьня сваёй заявы.

У сваю чаргу, апошні таксама напісаў яму ліст. Перапіска працягваецца, пэрыядычна дапаўняючыся высьвятленьнем адносін пры асабістых сустрэчах.

Дадамо, што нядаўна супрацоўнік Кантрольнай Палаты А.Ігнаценка аб'явіў галадоўку ў габінэце Саковіча ў знак пратэсту супраць працяглай затрымкі з вырашэньнем яго жыльлёвага пытаньня. Ігнаценка галадаў тры гадзіны, пасьля чаго яму паабяцалі даць кватэру ў бліжэйшы час.

**СІМ.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# «МУЗЭЙ НАЛЕЖЫЦЬ УСІМ НАМ...»

26 траўня, нарэшце, пасьля доўгатэрміновага рамонту зноў пачаў працаваць у Горадні музэй Максіма Багдановіча. Дзень яго адкрыцьця супаў з днём сьмерці паэта. Як і некалі ў 1986 годзе, на ўрачыстасьць прыехаў паэт Беларусі Ніл Гілевіч. З яго слоў, Багдановіч - самы блізкі яму паэт, таму што завяшчаў нам духоўнасць. І таму Ніл Сямёнавіч зноў з задавальненьнем у Горадні.



Напэўна, ўсім сабраўшымся было прыемна, што гэтую ўрачыстасьць наведаў нават міністр Культуры й друку РБ Анатоль Бутэвіч. Ён падзякаваў усім за тое, што шануюць памяць аб паэце, адзначыў цікавую экспазыцыю музэя й паведаміў аб тым, што 27 траўня ў Яраслаўлі адбудзецца адкрыцьцё помніка Максіму Багдановічу.

Усе выступаўшыя добрымі словамі дзякавалі дырэктарку музэя Дануту Бічэль-Загнетаву, дзякуючы якой стала магчымым адкрыцьцё гэтага музэя й якая ўклала і ўкладвае ў яго ці не ўсе свае сілы. Праўда, выступаючы апошняй, Данута Янаўна сьціпла заўважыла, што музэй належыць усім нам і трэба прыкласьці ўсе намаганьні, каб ён стаў сапраўдным.

**(ав).**

# А ЯШЧЭ Ў КАПЕЛЮШЫ...

У наш сёньняшні, эканамічна цяжкі час неяк так сталася, што, акрамя як аб грошах і новых цэнах, ніхто ні аб чым і гаварыць ня хоча. І гэта зразумела. Жыць трэба. І ўсё ж ня хлебам адзіным жыве чалавек. Духоўныя якасьці ва ўсе часы былі прыярытэтнымі ў цывілізаваным грамадзтве. Хочацца верыць, што мы яшчэ не зьдзічэлі канчаткова. Таму давайце крышку паразважаем аб такім забытым паняцьці, як інтэлігентнасьць.

Слоўнік У.Л.Даля тлумачыць слова "інтэлігенцыя" наступным чынам: "...разумная, адукаваная, разумова развітая частка жыхароў". Менавіта такімі й былі Б.Тарашкевіч, В.Ластоўскі, браты Луцкевічы, многія іншыя вядомыя й невядомыя беларусы, якія не шкадавалі сіл для адраджэньня нацыянальнай незалежнасьці, культуры, адукацыі. Людзі гонару, адказныя за кожнае сваё слова, дзеяньне. Але такі тып чалавека быў непатрэбны для бальшавікоў, бо надта ўжо духоўна бруднымі выглядалі яны на іх фоне. А таму, каб пазьбегнуць лішніх клопатаў, камуністы ва ўласьцівай для іх манеры расстралялі ўвесь інтэлектуальны патэнцыял дзяржавы. Да ўлады былі дапушчаны "кухаркі", а пралетарыят стаў "гегемонам" і асноўнай рухаючай сілай у краіне Саветаў. Але жыцьцё ў хуткім часе пачынае патрабаваць ад "будаўнікоў сьветлага будучага" стварэньня сваёй вышэйшай школы. Узьнікае паняцьце "Чырвоная прафэсура". А пад яе зьяўляецца й новая фармулёўка слова "інтэлігент".

Вось што піша ў першым савецкім слоўніку С.І.Ожэгаў:"Інтэлігенцыя - працаўнікі разумовай працы, якія валодаюць адукацыяй і спэцыяльнымі ведамі ў розных галінах навукі, тэхнікі й культуры". Заўважце, як спросьцілася само паняцьце ў "новым" грамадзтве. Атрымаў дыплём аб вышэйшай адукацыі, і ты - інтэлігент. А хто і што стаіць за гэтым - розьніцы няма. Бо вядучая роля за пралетарыятам, а ўсё астатняе - непазьбежны дадатак, ня варты ні ўвагі, ні павагі. І пасыпалася на нашу інтэлігенцыю :"А яшчэ капялюш носіць: бач ты яго, акуляры начапіў, інтэлігент паганы, увогуле, інтэлігент - ад слова "тэлега". Таму ганарова было напісаць у анкеце аб сацыяльным паходжаньні - з рабочых. А інтэлігенцыя - гэта не клас, - праслойка. І слова ж знайшлося.

Адзін мой знаёмы расказваў, што для асьпірантуры яму трэба было ўступіць у КПСС. Ён наладзіў сувязі, папаіў гарэлкай каго неабходна, і ўрэшце пачуў:

- Ведаеш, на інтэлігенцыю ў нас вельмі жорсткая разнарадка. Але як толькі ў раёне пампрэ настаўнік-камуніст, ты першым будзеш на чарзе ў рады нашай партыі. Я высьвятляў, чакаць ня надта доўга. Думаю, пасьпееш да экзаменаў.

Сёньня мы жывем у незалежнай Беларусі. Фарміруецца новая беларуская інтэлігенцыя. Якая яна? Перш за ўсё, гэта людзі, адданыя сваёй радзіме, інтэлектуалы, з пачуцьцём годнасьці. І зусім не абавязкова з дыплёмам ВНУ.

На адным з паседжаньняў гісторыка-культурнага клюба "Паходня" ішло абмеркаваньне "Прапановў Дзяржаўнай камісіі па ўдасканаленьню беларускага правапісу". Былі запрошаны ўсе жадаючыя й, у першую чаргу, выкладчыкі беларускай мовы гарадзенскіх школ, бо менавіта яны ў гэтым больш зацікаўленыя. І што вы думаеце? Не прыйшоў ніводзін настаўнік. Абмяркоўвалі пытаньні правапісу, прасілі тлумачэньняў у запрошанага на сустрэчу прафэсара І.Я.Лепешава рабочыя, служачыя, беспрацоўныя. Дык хто зьяўляецца ў сапраўднасьці інтэлігентам: абыякавыя да сваёй справы, краіны, дзяцей, якім карыстацца ўсё жыцьцё гэтым правапісам, настаўнікі, ці тыя, скажам, непрафэсіяналы, якія знайшлі й час, і магчымасьць прыйсьці й сказаць сваё слова па сапраўды важным для нас усіх пытаньні. Дык ці трэба дзівіцца, што такія ў нас цяпер і школы...

Яшчэ адзін прыклад. Паседжаньне "Паходні" пачынаецца а 19-ай гадзіне ў памяшканьні гарадзкога Дома культуры. На гадзіньніку 19.00. У калідоры таўкуцца сябры клюбу. А ў зале йдзе рэпэтыцыя нейкага аркестра. Падыходжу да кіраўніка й тлумачу, што ўжо наш час, і пытаю, як доўга яшчэ чакаць. І вось што чую:

- Я - заместитель начальника отдела культуры. Это мой Дом. Сколько потребуется, столько и будем репетировать. Поэтому ждите. А захочу, вообще позакрываю всё это...

Вось вам і нозьбіт культуры, інтэлігентнасьці. А колькі даводзіцца чуць ад людзей, якія лічаць сябе інтэлігентамі, слоў нянавісьці да беларускай мовы. Але ж любая мова, нават лексічна самая абмежаваная, - гэта багацьце ўсяго чалавецтва, бо тут і гісторыя, і культура, і чалавечыя лёсы. Як можна гэтым пагарджаць?

Працэс выхаваньня сапраўднага інтэлігента вельмі доўгі й складаны. Духоўна багатая асоба можа зьявіцца толькі ў адпаведным асяроддзі: Прыкладам павінны стаць кіраўнікі горада, вобласьці, рэспублікі. Бо яны заўсёды на відавоку, з іх бярэцца прыклад.

Таму ў канцы свайго артыкула я хацеў бы прапанаваць невялікі тэст на інтэлігентнасьць для супрацоўнікаў Гарадзенскага гарвыканкама й гарсавета.

1. Калі прымаецца рашэньне аб вяртаньні вуліцам іх гістарычных назваў, ці інтэлігентна хаваць яго пад абрус і спасылацца на нейкія цяжкасьці, якія былі, ёсьць і будуць?

2. Калі на вачах гіне сапраўды гістарычны парк у мікраёне Румлёва, ці інтэлігентна рабіць выгляд, што такой праблемы ў нас няма?

3. Калі частка людзей прытрымліваецца ідэй Леніна, частка - Сталіна, частка - Пілсудзкага, ці інтэлігентна трымаць на цэнтральнай плошчы помнік толькі аднаму Леніну, а не паставіць помнікі Сталіну, Пілсудзкаму і г.д., назваўшы адпаведна й саму плошчу. А ці не лепей перанесьці помнікі Леніну, Чапаеву і іншым на тэрыторыю гісторыка-архэалагічнага музэя, дзе яны б радавалі вока сваіх прыхільнікаў?

Хто адкажа, а лепш, вырашыць гэтыя пытаньні, той сапраўды заслугоўвае ўсеагульнай павагі як інтэлігент.

**Віктар ВАРАНЕЦ,**
**Старшыня гісторыка-культурнага клюба "Паходня".**

# ФОНД ПАДТРЫМКІ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ РЭФОРМАЎ АБ САБЕ

**Беларускі рэспубліканскі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў быў створаны дэпутатамі ад дэмакратычных партыяў і рухаў амаль два гады таму, зарэгістраваны 11 жніўня 1992 года Міністэрствам Юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Прапануем вашай увазе інтэрв'ю нашага карэспандэнта з старшынёй праўленьня Фонду Георгіем КУНЕВІЧАМ.**

**- Георгій, што сабой уяўляе ваша арганізацыя й якія яе мэты?**

- Гэта няўрадавая, некамэрцыйная, непалітычная грамадзкая арганізацыя. Уяўляе сабой асацыяцыю дэпутатаў мясцовых Саветаў, вучоных і бізнэсмэнаў, аб'яднаных дзеля рэфармаваньня сістэмы мясцовых органаў улады.

Мэтай Фонду зьяўляецца: пераадольваньне мітынговага сіндрому новых палітычных партыяў, рэалізацыя праграмаў разьвіцця мясцовага самакіраваньня, практычнага вопыту дэпутатаў дэмакратычных рухаў.

**- Чым канкрэтна зараз займаецца ваш Фонд?**

- Мы вывучаем вопыт рэфармаваньня ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Эўропы, Балтыі, СНД. Супрацоўнічаем з міжнароднымі арганізацыямі, што садзейнічаюць правядзеньню рэформаў у посткамуністычных краінах. Праводзім сустрэчы, лекцыі, сэмінары, стажыроўкі, канфэрэнцыі ў Беларусі й за мяжой, выдаем інфармацыйныя матэрыялы.

За аснову распрацоўкі сваёй канцэпцыі Фонд разглядае Эўрапэйскую Хартыю мясцовага самакіраваньня, прынятую ў Стразбургу ў 1985 годзе.

У якасьці заканадаўчай ініцыятывы Фонд, яго Ўправа распрацавалі і ўнеслі на разгляд Вярхоўнага Савета Праэкт Разьдзела Канстытуцыі РБ "Асновы мясцовага самакіраваньня", які, праўда, быў адхілены.

**- З кім вы супрацоўнічаеце?**

- Фонд прыняты ў Саюз Эўрапэйскіх муніцыпалітэтаў і камун, мае статус спэцыяльна запрошанай арганізацыі для ўдзелу ў рабоце сталай канфэрэнцыі Тэрытарыяльнага самакіраваньня Рады Эўропы (г.Стразбург).

У галіне рэфармаваньня мясцовых органаў улады супрацоўнічаем з Фондам Стэфана Баторыя, Саюзам самакіраваньня Латвіі й інстытутам Праблемаў самакіраваньня ў Вугоршчыне.

**- Якія асноўныя прынцыпы правядзеньня рэформы сістэмы мясцовых органаў улады вы прапануеце для Рэспублікі Беларусь?**

- Найперш, замацаваньне ў Канстытуцыі асноў самакіраваньня, выкладзеных у Эўрапэйскай Хартыі тэрытарыяльнага самакіраваньня. Неабходна правесьці адміністрацыйна-тэрытарыяльныя рэформы (скасаваньне абласнога ўзроўню прадстаўнічых органаў) і пераход на 2-х- узроўневую структуру мясцовых органаў самакіраваньня. Разьдзяленьне дзяржаўнай улады на месцах і мясцовых прадстаўнічых органаў. Поўная самастойнасьць мясцовых Саветаў у межах сваёй кампэтэнцыі ў вызначэньні й стварэньні сваёй унутранай арганізацыі, структуры органаў выкананьня й кіраваньня. Самастойная фінансавая база, выпрацоўка новай рэгіянальнай палітыкі, стварэньне замест існуючай адміністратыўна-эканамічных структуры 20-40 адміністратыўна-эканамічных рэгіёнаў, ды шмат іншага.

# ЦІ Ж ТАК МОЖНА, ЯСНАВЯЛЬМОЖНЫ СТАРЭЙШЫ БРАТ?

Калі бачу па тэлевізары ці чытаю ў газэтах пра ўціск рускамоўнага насельніцтва ў маладых сувэрэнных дзяржавах, робіцца ніякавата. Асабіста ніколі ні словам, ні справай не абразіў рускага чалавека. Упэўнены, што так робяць і ў іншых месцах. Дык чаму ж так сярдуюць у Маскве на нібыта абмежаваныя правы рускіх у суседніх краінах? На маю думку, такой праблемы ўвогуле не існуе. Яе штучна раздуваюць пэўныя рэваншысцкія сілы ў той самай Расеі. Відаць, балюча ад таго, што страцілі панаваньне на адной шостай часткі зямлі. Вось і шукаюць спосаб, каб наноў, пры дапамозе зброі, пад лёзунгам абароны правоў рускіх у блізкім замежжы падпарадкаваць сваім імпэрскім інтарэсам маладыя незалежныя дзяржавы.

Некалі СССР называлі сям'ёй братніх народаў. І вось калі малодшыя браты пажадалі мець свой уласны дом, то старэйшаму брату такое стала не да густу. Ці ж можа так брат "дапамагаць" брату?

**Г.ЗІНОВІЧ.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012









# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Дырэктар Ігналінскай АЭС В.Шэвалдзін абверг распаўсюджаныя ў мінулую сераду чуткі аб аварыі, якая быццам бы адбылася на станцыі. Яны пайшлі спачатку з Беларусі, потым з Латвіі. Яму нават тэлефанавалі афіцыйныя прадстаўнікі Беларускай інспэкцыі па нагляду за атамнай энэргетыкай. "Абодва блокі атамнай элетрастанцыі бязьдзейнічаюць. Ніякіх аварый у нас не было", - паведаміў В.Шэвалдзін.

Першы блок АЭС з 26 сакавіка на планавым рамонце. Другі спынены 12 красавіка з-за лішку энэргіі.

* * *

Упершыню ў Летуве з рабочым візытам знаходзілася дэлегацыя Міністэрства абароны Беларусі на чале з міністрам П.Казлоўскім. Яна сустрэлася з Старшынёй Сэйма Ю.Ч.Юршэнасам, міністрам аховы краю Л.Лінкявічусам. Абодва бакі заявілі аб тым, што бачаць адзін у другім не ворагаў, а партнёраў па супрацоўніцтву. У той жа час, на думку Лінкявічуса, казаць пра падпісаньне з Беларусьсю дагавора аб вайсковым супрацоўніцтве можна ў тым выпадку, калі яна выразіць удзельнічаць у праграме "Партнёрства дзеля міру".

* * *

У Старым горадзе Вільні адчынілася новая карцінная галерэя. Яна размясьцілася ў палацы, які калісьці належыў сям'і гэтмана Вялікага Княства Літоўскага й Віленскага ваяводы Хадкявічуса. Пры Саветах галерэя знаходзілася ў Кафэдральным саборы, але храм быў вернуты вернікам.

* * *

Па словах намесьніка міністра працы й сацыяльнай абароны Р.Кайлярыса, "невялікія лічбы ўзроўня беспрацоўя ў Летуве (на 1 траўня працэнт непрацуючых склаў 3,2, а беспрацоўных - 1,3) не гавораць аб стабільнасьці эканомікі".

"У Летуве склалася парадаксальная сытуацыя - аб'ёмы вытворчасьці скарачаюцца, а ўзровень беспрацоўя застаецца стабільным ці нават зьмяншаецца разам з аб'ёмамі вытворчасьці, - кажа доктар М.Давідавічус, - гэта можна растлумачыць хуткім разьвіцьцём "чорнага рынка працы" і даволі шырока распаўсюджанай няпоўнай занятасьці."

Па падліках экспэртаў, "чорны рынак працы" можа складаць 10-20 % ад афіцыйна аб'яўленай колькасьці работнікаў.

* * *

24 траўня прадстаўнікі трох краін Балтыі падпісалі дакумэнт аб стварэньні адзінай сістэмы супрацьпаветранай абароны. Стварэньне яе зойме 5-10 гадоў і патрабуе шмат сродкаў. Аднак яна неабходна як гарантыя дзяржаўнага суверэнітэту. Зараз бываюць выпадкі, калі летувіска-польскую й летувіска-расейскую паветраныя межы перасякаюць самалёты з кантрабандным грузам.

* * *

26 траўня ў першы рэйс з Клайпэды ў Гдыню накіравалася хуткаходная "Камета" на падводных крылах. 100 чалавек за чатыры гадзіны штодзень змогуць пераадолець адлегласьць паміж гарадамі.

* * *

У краіне зафіксаваны 22-гі выпадак ВІЧ. Малады чалавек, жыхар аднаго з буйных гарадоў, які мае сям'ю, заразіўся палавым шляхам. У ліку ВІЧ-інфікаваных і адна жанчына. Чацьвёра з 22-х заражоных вірусам СНІД памерлі. Двое інфікаваных загінулі, двое памерлі ад ускладненьняў.

* * *

"Летувос телекомас" зьбіраецца падаць у суд на абанента, які тэлефанаваў у Мэксіку й не заплаціў за гэта 2936 літаў. Увогуле, жыхары Паневежыса, якія маюць тэлефонную сувязь у кватэрах, на 1 траўня павінны былі 20.075 літаў.

Вялікую запазычанасьць маюць таксама й гарадзкія арганізацыі й прадпрыемствы. У агульнай суме яны павінны кампаніі 57.480 літаў. За апошні месяц адключана 70 абанентаў.

* * *

На нядаўняй прэс-канфэрэнцыі ў Сэйме намесьнік старшыні Сэйма Э.Бічкаўскас сказаў, што ў бліжэйшы час наладжваньне поўнага кантролю за арганізаванай злачыннасьцю ў краіне не ўяўляецца магчымым. Ён таксама сьцьвярджаў, што "прамысловасьць Летувы падзялілі паміж сабой 5-6 фінансавых груповак, якія ажыцьцяўляюць хуткае ўзыходжаньне па лесьвіцы ўлады. На думку незалежных экспэртаў, новая група з незвычайнай палітычнай дактрынай і ідэялогіяй ужо зараз аказвае сваёй дзейнасьцю прамы ўплыў на рашэньні Сэйма, ураду й іншых інстытутаў улады.

* * *

Капітан грэчаскага судна "Pauline-Oliven" Д.Лампадзіс заявіў у паліцыю аб крадзяжы трох марскіх біnokляў, насьценных гадзіньнікаў, пераноснай радыёстанцыі й алкагольных напояў на суму 10 тысяч літаў. Судна стаяла на рамонце ў доку Клайпэдзкага судабудаўнічага прадпрыемства.

Як высьветлілася, крадзёж зьдзейсьнілі рабочыя гданьскага судараманттнага прадпрыемства "Родуня". У адпаведнасьці з нормамі міжнароднага марскога права, грамадзяне Польшчы ўчынілі яго на грэчаскай тэрыторыі. Яны высланы ў сваю краіну без права далейшага працаўладкаваньня ў Клайпэдзе.

МГ-ЛР

# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

У Польшчы распачынаецца выбарчая кампанія ў мясцовыя самаўрады. Па ўсёй краіне ўжо зарэгістравана звыш 170 тысяч кандыдатаў на радных. У чэрвеньскіх выбарах мандаты атрымае 52 тысячы новых радных.

***

Увайшоў у сілу закон аб аўтарскім праве, паводле якога турэмным заключэньнем цяпер будуць карацца нелегальныя вытворцы касэтаў, кружэлак і кампутарных праграмаў.

***

У Кракаве адбылася 1 канфэрэнцыя Беспартыйнага блёку супрацоўніцтва з урадам (ББСУ). Прафэсар З.Рэліга, лідар блёку, прапанаваў пераўтварыць сваю арганізацыю ў палітычную партыю.

***

Вязьні турмы ў Вроцлаве аб'явілі галадоўку. Іх патрабаваньні былі безкампрамісныя: жадалі лепшага харчаваньня й паляпшэньня гігіенічных умоў.

***

У Катавіцах перад мэрыяй адзін з жыхароў горада абліўся бэнзінам і прыгразіў, што падпаліць сябе, калі ўлады не забясьпечаць яму месца на рынку, які зараз пачне працаваць пасьля рамонту. Сустрэўшыся з мэрам горада, даведзены да адчаю мужчына ўсё ж адступіў ад сваіх задумаў.

***

Паліцыянты й паляўнічыя зьбіліся з ног, шукаючы двух ільвоў, якіх быццам бачылі ў лясах пад Гасьцінінам, ваяводзтва Плоцкае. Аднак выявілася, што гэта былі не ільвы, а каўказкія аўчаркі, якія папросту выйшлі на шпацыр. Так і скончылася першае сафары ў Польшчы.

***

Польскія мусульмане ўрачыста адзначылі сьвята Курбан-Байрам. З гэтае нагоды ў мячэцях у Багоніках і Крышанятах маліліся ці не з усяе Польшчы вернікі ісламу. У будучым плануецца збудаваць мячэць у Беластоку, ужо нават ёсьць праэкт храма й зьбіраюцца грошы на яго патрэбы.

***

Адно з галоўных пытаньняў на гэтым тыдні падчас пасяджэньня Сэйму - аб магчымасьці расшырэньня праў на аборт для жанчын у цяжкай жыцьцёвай сытуацыі. Пакуль ідуць толькі дыскусіі. Ю.Глемб, прымас польскі, на гэта зазначыў, што нават у думках не дапускаў, што пытаньне зноў паўстане на пасяджэньнях Сэйма.

**Па матэрыялах польскага друку.**

## ТРАНЬЗІТ НАРКОТЫКАЎ ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА

Праз гэтую краіну "белую атруту" перапраўляюць з Усходу на Захад і наадварот.

Нядаўна на складах міжнароднага варшаўскага аэрапорту "Okensze" было знойдзена паўтоны наркотыкаў.

На КПП польска-гэрманскай мяжы ў Ольштыне польскія мытнікі канфіскавалі 40 кіляў гераіна на суму 3,2 мільёна даляраў ЗША.

У студзені мытнікі з Гдыні знайшлі на судне "Люблін" прывезеную з Эквадора буйную партыю какаіна. Сумеснымі намаганьнямі польскіх і ангельскіх мытнікаў на судне "Юрама" было выяўлена 1.200 кіляў гэтага наркотыка.

У лютым на балгарскай мяжы было затрымана 34 каністры са спэцыяльнай вадкасьцю, прызначанай для вытворчасьці амфеталіна. У кожнай з іх утрымлівалася 20-25 кіляў раствору.

**"ЭЛЬТА"**

## СУСЕДЗІ ДЗЕЛЯЦЦА ВОПЫТАМ

З існаваўшых у Польшчы ў канцы 1990 года 8 тысяч 441 дзяржаўнага прадпрыемства сёньня зьмянілі форму ўласнасьці 2 тысячы 521 прадпрыемства, пры тым 98 з іх сталі поўнасьцю прыватнымі, а 1802 - ліквідаваны па прычыне нерэнтабельнасьці. Гэтыя дадзеныя прагучалі на трохдзённым сэмінары "Ад дзяржаўнага прадпрыемства да прыватнага грамадзтва", які адбыўся ў Менску й быў зарганізаваны інстытутам прыватызацыі й мэнэджмэнта. Тэмпы ж прыватызацыі на Беларусі больш сьціплыя: у 1993 - прыватызавана 140, што складае больш за 10 працэнтаў асноўных фондаў. У гэтым годзе ў рэспубліцы будзе прыватызавана каля 400 аб'ектаў (каля 20% асноўных фондаў) і ператорана ў адкрытыя акцыянэрныя таварыствы ня менш 50 буйных прадпрыемстваў матэрыяльнай вытворчасьці.

**МАС-МЭДЫЯ ЦЭНТР.**

## ТРЭЦІ ФЭСТЫВАЛЬ ПОЛЬСКАЙ ПЕСЬНІ

У тэатры лялек Горадні адбыўся трэці рэспубліканскі фэстываль польскай песьні. Сьвяточную імпрэзу зарганізаваў Саюз палякаў на Беларусі. У ёй узялі ўдзел самадзейныя калектывы з Берасьця, Горадні, Воранава, Ліды і іншых мясьцін Беларусі.

Хоць майстэрства некаторых удзельнікаў фэстывалю й не зусім адпавядала неабходнаму ўзроўню, але само правядзеньне на Беларусі падобных сьвятаў, праграму якіх складаюць народныя й сучасныя мэлодыі, паказала, што гэта трэба рабіць часьцей, бо менавіта такія фэсты папаўняюць культурную скарбніцу нашай краіны новымі, цікавымі адценьнямі.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

**НА ЗДЫМКУ: Удзельнікі фэстывалю на вуліцах Горадні.**

**Фатаграфаваў М.АНІШЧАНКА.**



# АБ ЧЫМ КАЖУЦЬ ЛІЧБЫ

У савецкія гады цікаўнае вока лёгка магло вызначыць службовую машыну высокага чыноўніка: яе нумар пачынаўся з нулёў. У "самага першага" нумар быў 00-01, у "другога" - 00-02 і г.д. У гаражы ЦК КПЛ нумары ўсіх "Волгаў" пачыналіся з "траякоў"(33-...), а Савета Міністраў - з "чацьвёрак"(44-...).

Ранейшая сістэма дзяржаўных нумароў дазваляла вызначыць, каму належыць аўто - прыватнай асобе ці дзяржаўнай установе, у якой менавіта савецкай рэспубліцы ён зарэгістраваны.

Цяпер у Летуве яшчэ дзейнічаюць розныя дзяржаўныя нумары: і савецкага перыяду, і новыя, летувіскія. Дзяржнумары старога ўзору будуць сапраўднымі да 1995 года.

Але й па новых летувіскіх дзяржнумарах таксама можна пра штосьці даведацца.

Зараз пры рэгістрацыі аўтамабіля (транспартнага сродка) у Летуве ўладальнік у залежнасьці ад яго юрыдычнага статуса павінен атрымаць звычайны нумарны знак (тры чорныя літары й тры чорныя лічбы на белам фоне), дыпламатычны ці часовы.

Дыпламатычныя нумары - на аўто дыпламатаў. Яны маюць зялёны фон, на якім зьмешчана літара D і пяць лічбаў. Дзьве апошнія лічбы абазначаюць год рэгістрацыі аўтамабіля (у савецкі час пасольствы замежных краінаў у Маскве мелі ўласныя нумары. Так, напрыклад, нумары аўто пасольства Іспаніі пачыналіся з лічбаў 007, Венгрыі - 045 і г.д.).

Часовыя нумары з чырвонымі літарамі (А ці Р) і пяцьцю чырвонымі лічбамі на белым фоне. Знакі серыі А выдаюцца на год (іх можа атрымаць іншаземец, які пражывае ў Летуве, на аўтамабіль, набыты ў сябе на радзіме). Знакі серыі Р выдаюцца фірмам, што гандлююць аўтамабілямі. Яны набываюць камплект знакаў і выкарыстоўваюць па ўласнаму жаданьню на новых аўто. На знаках серыі А і Р дзьве апошнія лічбы ўказваюць на год выдачы дзяржнумара.

Шмат інфармацыі ўтрымліваюць і звычайныя нумарныя знакі. У камбінацыі AVC, напрыклад, другая літара (V), указвае на назву горада, дзе зарэгістраваны транспартны сродак (у дадзеным выпадку - Вільня). Такіх літар дзесяць: V - Вільня, K - Коўна (Каўнас), L - Клайпэда, P - Панявежыс, S - Шаўляй, J - Юрбаркас, M - Марыямпале, A - Алітус, U - Уцена, T - Тешляй.

Машыны членаў урада адзначаны трыма літарамі - LRV (выдадзена 35 камплектаў такіх нумароў). Нядаўна ўласныя літары атрымаў і Сэйм - LRS.

Свае нумары ёсьць і ў вайскоўцаў: на транспартных сродках Міністэрства аховы краю - KAM (абрэвіятура з пачатковых літар назвы міністэрства), на машынах дэпартамэнта грамадзянскай абароны - KAC і г.д.

LR

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





## РАЗВАЖАНЬНІ

# ПАДЗЕЛЕНЫ НАРОД СТАНОВІЦЦА ЗДАБЫЧАЙ ЧУЖЫНЦАЎ

### Роздум ветэрана ў шпіталі інвалідаў вайны

**Гэтыя людзі - ужо апошняе жывое рэха чалавечай трагедыі. Гэта яны вярнуліся з вайны інвалідамі, але дома не было каму працаваць, і дзяржава зьняла інваліднасьць да выхаду на пэнсію. Гэта ўжо дзяды й бабулі, што шанавалі бацькоў сваіх і пакідаюць пасьля сябе нашчадкаў і сваю Беларусь. Цішыня ў шпіталі, адпрацаваная тэхналёгія лячэньня, спакойныя чэргі, людзям ужо няма куды сьпяшацца. Толькі й чутныя ціхія скаргі на малыя пэнсіі, высокія цэны, пустыя паліцы ў магазінах і аптэках.**

**Мінуў іхні актыўны час, калі перад імі ўцякалі цывілізаваныя эўрапэйскія забойцы, нізка кланяліся нямоглыя звышчалавекі й дарылі кветкі вызваленыя рабы "новага парадку". Але па сабе ведаю, што ня ўсе супакоіліся. Абураецца розум з багатым жыцьцёвым вопытам на тыя хібы, якія яны пакідаюць пасьля сябе. І сэрца шчыміць ім за лёс тых, хто прыйшоў пасьля іх...**

Беларусь ужо вольная дзяржава, як на ўсходзе, так і на захадзе. Людзі нібы ўжо й падраўняліся, ва ўсякім разе зьнешне. Мяне не зьдзівіла думка "аўганца" з Гомельшчыны, які выказаў сымпатыю "западнікам": у свой час замест таго, каб пайсьці ў калгасы, яны пайшлі ў лясы й адтуль забівалі камісараў. У маю маладосьць было наадварот: "восточники" нас называлі бандытамі, буржуазнымі нацыяналістамі, бандэрамі, бульбашамі, хоць і ня ведалі, што азначаюць гэтыя ярлыкі. Віну за такі падзел нясе ЦК КПСС са сваімі структурамі зьверху да нізу, гэтак сама, як і за тое, што гісторыя Беларусі трактавалася як барацьба класаў, а нацыянальная сьвядомасьць лічылася буржуазным перажыткам. Усё проста і... жахліва.

Ні на зьездах, ні на пленумах, ні ў друку ніколі не гаварылася, што ў Заходняй Беларусі вяла збройную барацьбу супраць беларусаў і расейцаў польская Армія Краёвая, якая ставіла за мэту адбудову Польшчы ў межах 1939 года. Чаму маўчалі аб гэтым Панамарэнка, Патолічаў, Прытыцкі, Мазураў, Машэраў, Сакалоў са сваімі аднадумцамі пісьменьнікамі й журналістамі? Людзі верылі гэтым хлусьнярам.

Чаму не было аб'яўлена на ўвесь сьвет, што польская армія ў 1939 годзе не здалася добраахвотна Чырвонай Арміі, а часткова была ўзята ў палон, часткова перайшла у падпольле? Мы радаваліся далучэньню да Усходняй Беларусі, а нас называлі ворагамі. Вывозілі на Сібір польскіх асаднікаў, што зьяўляліся базаю польскага супраціўленьня, а гаварылі, што змагаюцца з кулацтвам. "Хапуны" працавалі толькі ноччу, як баязьлівыя драпежнікі, і таму трымалі ў напружаньні ўсё насельніцтва. Насіліся розныя чуткі, адна страшней за другую. Невядома, чаму была закрыта граніца з Усходняй Беларусьсю. Усе ведалі, што Нямеччына - наш вораг, і што вайна з ёй рана ці позна адбудзецца. Аднак немцы лічыліся хаўрусьнікамі, хоць і будавалі супраць нас аэрадромы й лініі абароны. Упэўнены, каб была сапраўдная, а не савецкая галоснасьць, дык і не было б Хатыні, ня было б шмат чаго з таго, што й сёньня адбіваецца на адносінах паміж дзяржавамі-суседзямі й людзьмі. Расейска-польская хлусьня стала бядою для маладой беларускай нацыі.

Ня ведаю, чаму гэта беларуская інтэлігенцыя лепіць на беларусаў ярлыкі гэтакіх няўклюдаў-памяркоўцаў. Вайна з немцамі гэтага не падцьвердзіла. Чырвоную Армію можна было абкружыць і браць у палон мільёнамі, а вось з беларусамі гэтага зрабіць было нельга. Наша Хатынь - ня толькі наша боль. Гэта наш гонар, гонар нескаронасьці. Назавіце яшчэ адзін народ такі на сьвеце, якога палілі агнём і зьнішчалі мячом, а ён жыў і бяззбройным перамагаў сваіх ворагаў?

Ня ведаю, што меў на ўвазе нябожчык Алесь Адамовіч, калі ўзгадваў у "ЛіМе" словы свайго бацькі пра верасень 1939 года: "Разарвалі Польшчу... Добра гэта ці дрэнна? Заходняя Беларусь - польская правінцыя ці ўсё-ткі Беларусь?" Мне асабіста такія допісы нагадваюць развагі некаторых мясцовых палякаў узору 1939-1941 годоў.

Як толькі прыйшлі немцы, былыя "стрэльцы" выйшлі з падпольля і ўзялі ўладу ў Сабакінскай гміне (гэта была першая акцыя "Сіл Збройных" на Навагрудчыне, ведаеце, адкуль я). Узброеныя палякі зьнішчалі, у першую чаргу, камуністаў, саветы, потым гналі жыдоў у Васілішкі й праз некаторы час дапамагалі немцам ліквідаваць гэтта. Потым мы былі далучаны да Ўсходняй Прусіі, і ў немцаў адпала неабходнасьць карыстацца паслугамі палякаў.

Знайшліся калабаранты - беларусы й палякі, якія здрадзілі сваім "стрэльцам", перайшлі на службу да немцаў, а патрыётаў зьнішчылі. Шчучынскі павет застаўся ў Вайсрутэніі і стаў першым асяродкам АК, якая, у першую чаргу, зьнішчала ўсё беларускае пад рознымі колерамі.

У Вайсрутэніі немцы не чапалі акоўцаў, самі жылі ў гарадах і мястэчках, а акоўцы спакойна адседжваліся па вёсках, лічы ахоўвалі немцаў ад чырвоных партызанаў. Заходнія цывілізатары ня вельмі перашкаджалі адзін аднаму "дранхаць нах остэн". Гэта я назіраў у натуры, аб гэтым прачытаў і ў польскіх дасьледчыкаў. Акоўцы ня мелі посьпеху там, дзе насельніцтва было праваслаўнае. Таму праваслаўныя сьвятары былі прадметам тэрору польскіх патрыётаў. Клясавая прыналежнасьць у разьлік імі не прымалася зусім.

У часы "нового мышления" мне ўдалося сабраць больш ці менш праўдзівыя матэрыялы па гісторыі Беларусі. Канешне, не ў Біча, Лыча ды Сідарэвіча. Польскія аўтары больш грунтоўныя, хоць і тэндэнцыйныя. Па Арміі Краёвай таксама ўсе зьвесткі атрыманыя з польскага боку. Гэта ўжо пазьней Яўген Сямашка надрукаваў свае дакумэнтальныя нарысы ў пракамуністычных газэтах Беларусі. Але яго зацюкалі "дэмакратычныя" крыкуны, не дазволілі выйсьці на шырокую аудыторыю.

Карыстаючыся інэртнасьцю беларускіх навукоўцаў у справе АК і не прымаючы ўсур'ёз самой Рэспублікі Беларусь, польскі друк пайшоў у наступ. Пачаў змагацца за тое, каб стварыць сваім героям арэол сьвятасьці й нават, у асобных выпадках, вярнуць межы 1939 года. А беларускія "мудрацы" змоўклі, разгубіліся. Адно стараюцца прысвоіць сабе польскія перамогі над Расеяй.

Маленькая "Лідзкая газета" набралася адвагі надрукаваць праўдзівыя матэрыялы аб АК. Якніяк Ліда была сталіцаю польскасьці на Беларусі ў час вайны, і ў людзей яшчэ крывавяць раны ад гэтых "буржуазных нацыяналістаў, агэнтаў імпэрыялізма" (камуністычны лексікон). Але ў Менску гэтых публікацый не заўважылі. Затое Варшава СТРАШНА абурылася. Для выхавальнай работы ў Ліду прыехаў сам Цэзары Хлябоўскі - доктар гістарычных навук, прафэсар і аўтар кніг аб дзейнасьці польскай АК на Беларусі. Ён ведаў, што ў Лідзе няма дактароў навук, ніхто яго не аспрэчыць, бо ён будзе ў атачэньні мясцовых акоўцаў і польскіх актывістаў. Мясцовыя ўлады аб гэтым нібы нічога ня ведалі.

І пачаўся душавыратавальны маналог вучонага. Яму ніхто не перашкаджаў. Мы разумелі: трэба вытрымаць. І заблытаўся прафэсар на адказе аб дзейнасьці каманьдзіра 76-га лідзкага палка АК палкоўніка Праўдзіц-Шляскага. Увесь тэрарызм АК наш госьць узваліў на гэтага каманьдзіра, які гэта чыніў, з-за асабістай крыўды, і яго, маўляў, за гэта асуджаюць. Скрывадушнічаў пан Хлябоўскі . А мы ведалі й ведаем, што Праўдзіц-Шляскі быў адхілены ад кіраўніцтва палком летам 1944 года за тое, што адмовіўся заваяваць Вільню перад прыходам туды Чырвонай Арміі. Таксама вядома, што апошні тэрарыст-аковец быў забіты пад Суркантамі аж у 1954 годзе. Адкрытая схватка цягнулася 10 год, а закрытая цягнецца й да гэтай пары. Зьбянтэжыўся доктар, але не зьбянтэжыліся ацалелыя лідзкія акоўцы. Пачалася істэрыя. Адзін адкрытым тэкстам крычаў: "Дайце мне кулямёт, і я цяпер жа буду зьнішчаць акупантаў..." Другі папракнуў мяне за дзяржаўныя ўзнагароды й за прывілеі, якімі я карыстаюся як удзельнік вайны (ён ня ведаў, што я яшчэ і інвалід вайны), а ён да гэтай пары такімі правамі не карыстаецца... Жудасна!

Мы вытрымалі атаку, бо мы, заходнія беларусы, ведаем сабе цану. У свой час мы кланяліся кулям польскіх акоўцаў і літоўскіх шаўлісаў за тое, што з праваслаўных, што пайшлі вучыцца й не чакалі Амэрыкі, што сталі камсамольцамі. З другога боку - баяліся . Баяліся ўсходніх вызваліцеляў за тое, што мы "западнікі", што з кулакоў, і таму непаўнацэнныя. Усё мінула, мы жывем, хоць і без тытулаў. Зьмірыцеся, нашыя браты й суседзі палякі, з тым, што тут нашая зямля - беларуская. У свой час мы ня ўпалі ў "штопар". Але цяпер з больлю адзначаем, што так жыць больш нельга, хопіць варожасьці. Хто нарадзіўся на гэтай зямлі, усе зьяўляюцца яе дзецьмі.

Зразумелі акоўцы, што яны не перамаглі, пачалі лісьліва ўсьміхацца й нават падавалі рукі на развітаньне. Дыпламатыя... Польская дыпламатыя, мы ведаем ёй цану. "Лідзкая газета" пасьпяшала абвясьціць гэтую сустрэчу нечым накшталт "мірнага круглага стала", і памылілася. Праз некаторы час Лідзкае радыё на польскай мове аб'явіла, што дзесьці ў Лідзе адбыўся зьлёт акоўцаў, ужо без прысутнасьці беларускага боку, й невядома, што яны там вырашылі.

Цікава толькі, што й на гэты раз мясцовая ўлада нічога ня ведала. Можна чакаць, што такая ўлада хутка заляпоча крыльлямі, як тая курыца без галавы. "Дружба" народаў ужо прывяла да зьнішчэньня помнікаў нашымі салдатамі ў Польшчы й пабудовы помнікаў акоўцам, якія змагаліся супраць нашай Бацькаўшчыны на Беларусі. Рынуліся сюды польскія місіянэры з крыжамі й са злотымі. Выглядае, нібы палякі яшчэ й дагэтуль ня лічаць Беларусь за дзяржаву.

На жаль, нашая інтэлігенцыя садзейнічае як палякам, так і расейцам. Ня лічыцца з намі, нават кнігі перасталі друкаваць на беларускай мове пра каханьне, не гаворачы ўжо пра нашу гісторыю. Мы - сапраўдныя самаеды!

Тэхналёгія лячэньня йшла сваім парадкам, медыкі прыглядваліся на пятую дыету. Тут за стол суседзяў не выбіраюць, гэта ўсім вядома й ніхто не крыўдзіцца. Нас чацьвёра: два менчукі, адзін з Чэрыкаўскага раёну й я. Ніхто тут ня лішні, ежы хапае, але, як гаворыцца, не хлебам адзіным...

- Учора з нашай палаты выехаў баптыст, - паведаміў мянчук з левага боку, - ну і надаеў ён...

- Он западник или восточник? - каманьдзірскім басам запытаўся мянчук з правага боку.

- Западнік, - з нейкай агідаю адказаў сусед зьлева.

- Известное дело, западники - отсталый, темный народ, - як ісьціну ў апошняй інстанцыі давёў каманьдзірскі бас.

У мяне аж у вачах пацямнела, узбунтавалася кроў ня менш як васьмі каленаў продкаў прыгонных сялян абодвух палавін Беларусі, што зносілі, зашчаміўшы зубы, абразы ад старэйшых братоў.

- Якое вы маеце права абражаць цэлы народ? - як мага спакайней, але па-беларуску запытаў я суседа зправа.

- Я русский человек, я знаю... - хрыплым басам выкрыкнуў сусед, - если бы не мы...

Правінцыя не зьбіралася здавацца сталіцы, пайшоў абмен "візыткамі" на нацыянальныя тэмы. Сьціхлі размовы за суседнімі сталамі. У расейца скончыліся аргумэнты, і ён лінуў сваю порцыю кавы мне ў твар, а сам пакульгаў да выхаду. У мяне спала ўся напруга, кава была толькі цёплая й салодкая, я насоўкаю выціраў вочы й твар.

Да мяне падыйшла першаю жыдоўка, што сядзела за суседнім сталом і спакойна сказала:"Супакойцеся, нас, жыдоў, кожны дзень абражаюць, але гэта яны сябе абражаюць..."

Пацяплела на душы, перада мною нібы ўваскрэсла аднакласьніца Бэба Любэцкая, з якой сядзелі за адною партаю, толькі што тая была сьветлавалосая, а гэта зусім сівая. Ляжыць Бэба ў брацкай магіле ля Васілішкаўскай фермы, ніхто туды не прыносіць кветак. Калі й заходзяць туды, дык толькі моцныя людзі з зашчымленымі зубамі.

- Дзякую вам, добрая кабета, - з паклонам адказаў я, - я трымаюся...

Падыйшоў "аўганец":

- Ён з нашага аддзяленьня, усё піша ў палаце. Мы з ім самі разьбярэмся...

- Хлопцы, толькі цывілізавана, - папрасіў я.

- Ведаем, дзед...

І, відаць, разабраліся, бо да канца лячэньня гэты герой быў нібы ізаляваны ад такіх жа інвалідаў, як і ён. Ня тыя часы...

У шпіталі даволі багатая бібліятэка, узяў пачытаць Цішку Гартнага. Але даруй, братка, усё надумана, слаба. Вярнуўся да Л.Талстога - "Повести и рассказы". Ня дай Бог вярнуцца ў Расею такога парадку.

А вось і апавяданьне "За что?". Дзеяньне пачынаецца ў Ражанцы, той Ражанцы, дзе я ўпершыню сеў у "цялятнік", каб ехаць на вайну. Расейскі памешчык добра разумеў польскага памешчыка й хацеў, каб ён жыў без усякіх пераменаў на векі вечныя. Ніякай справы не было Талстому да беларускіх прыгонных сялян, а пра Беларусь ён, відаць, нічога й ня ведаў. Ведаў ён, што ў Пецярбурзе было польскае "лобі", якое бараніла сваіх суайчыньнікаў перад расейскімі законамі, гэтым і быў задаволены.

У шпіталі быў час чытаць і аналізаваць беларускі друк.

Невясёлыя думкі нараджаюць толькі адныя лёзунгі, якімі выхваляюцца рэдакцыі адна перад другою. Напрыклад:

"Народная газета" апавяшчае, што "Жыве Беларусь!", "ЛіМ" па-шляхэцку лямантуе, каб "Людзьмі звацца", "Рэспубліка" пафіласофску, глыбокадумна зацьвярджае дэмагогію, што "Не народ для ўраду, а ўрад для народа". Некаторыя газэты дагэтуль выходзяць з сілуэтамі Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, захаваўшы рэлікт "Пролетарии всех стран, соединяйтесь!". "Рокаш" (з польскага перакладаецца як "бунт") усё заклікае "Біце ў сэрцы іх, біце мячамі, не давайце чужынцамі быць." Для вайскоўца гэта наглядны аргумэнт - меч, але лепш ракета. Шкада, што ніводная рэдакцыя не прыняла лёзунгу:"Толькі анёлы з неба не патрабуюць хлеба." "Европейское время" толькі абрадавала, што "Свободный дух веет, где хочет". На жаль, мы ня духі...

Лёзунгі, сілуэты, тауро - знакі, рукатворныя для непісьменных, бязглуздзіца. А мы ўжо пісьменныя, "мы знаем всё: и жар холодных цифр, и дар божественных видений..." Ніхто нас ня верне ў XVI-е ці XIX-е стагоддзе. Безьліч партый - гэта прыкмета катастрофы. Партыя тавара - гэта частка. Партыя людзей - гэта шайка для захопу дабра ў сваю карысьць. Лепш бы іх наогул не было.

Мы ведаем гісторыю й трагедыю старажытнай Іудзеі. Гэта была культурная дзяржава, але яна была разбурана партыямі: Фарысеі (непарушныя) аддзяліўшыеся, адасобіўшыеся; Седдукеі - дактары, пісары; Есеі - воіны; Зелоты - раўніцелі Бога й г.д. Падзелены народ стаў здабычай чужынцаў, разбурыўся па ўсяму сьвету. Толькі Біблія захавала іх законы й звычаі, рэвалюцыйны дух, які перарос у хрысьціянства... У нас няма Біблії, ад нас, можа, й сьледу не застанецца. Праз 2000 гадоў Іудзея адрадзілася Ізраілем, а мы...

Ліха становіцца на сэрцы ад такіх думак.

**Серафім ЯНЕЦ з-пад Ліды.**

**Ад рэдакцыі: аўтар гэтага артыкула - чалавек, які прайшоў жыцьцёвы шлях, тыповы для міжваеннага пакаленьня заходнебеларускіх юнакоў. На яго вачах рабілася Гісторыя нашага Краю. І ён сам быў яе ўдзельнікам. Ваяваў, працаваў, жыў... Не заўсёды бясспрэчнымі выглядаюць некаторыя з тых высноў, якія ён даводзіць. Але ж у чым Серафіму Іванавічу не адмовіць - дык гэта ў любові да Бацькаўшчыны, у жаданьні бачыць яе квітнеючай.**

**Незагоеныя раны мінулага не павінны сёньня перашкаджаць беларусам і палякам, якія спрадвеку жывуць на гэтай зямлі, будаваць свой агульны Дом - незалежную Беларусь. Таму рэдакцыя бярэ на сябе абавязак надрукаваць усе водгукі на ліст С.Янца. Агульнымі намаганьнямі мусім выпрацоўваць свой пункт гледжаньня на падзеі сваёй гісторыі. Досыць, каб гэтым займаліся выключна дабрадзеі з Варшавы альбо Масквы.**

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

# ВАЦЛАЎ ІВАНОЎСКІ І СТАЎЛЕНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ ВЫДАВЕЦКАЙ СПРАВЫ

**Нацыянальнае адраджэньне Беларусі пачатку XX стагоддзя немагчыма ўявіць сабе зараз без такой славутай у гісторыі Беларусі постаці, як Вацлаў Іваноўскі. Пачатак яго палітычнай і асьветніцкай дзейнасьці на адраджэнцкай ніве прыпадае на мяжу XIX-XX ст., на студэнцкія гады Вацлава, праведзеныя ім у сталіцы Расейскай імпэрыі. Скончыўшы гімназію ў Варшаве, маладыя Іваноўскія накіраваліся ў Пецярбург. У 1895 г. прысхаў туды Ежы, а ў 1899 г. - Вацлаў. Абодва паступілі ў Тэхналягічны інстытут. У 1901 годзе да іх далучыўся Тадэвуш, які паступіў ва універсітэт.**

**У адрозьненьне ад свайго бацькі, які ўсё жыцьцё прысьвяціў прафэсійнай кар'еры й маёнтку ў Лябёдцы, маладыя Іваноўскія ў Пецярбурзе актыўна ўключыліся ў палітычную дзейнасьць. Так, Ежы стаў дзеячом польскага Kola Oswiaty Ludowej і PPS, удзельнічаў нават у траўні 1901 года ў вызваленні Юзэфа Пілсудзкага з пецярбургскага турэмнага шпіталю. Тадэвуш завязаў сувязі з летувіскімі дзеячамі й пачаў як сапраўдны летувіс вывучаць летувіскую мову. Толькі Вацлаў, усьведамляючы сябе беларусам, ня мог далучыцца да якой-небудзь арганізацыі, бо такой папросту ні ў Пецярбурзе, ні наогул дзе ў іншым месцы не існавала.**

**Аднак у гэты час у сталіцы імпэрыі ўжо існавала вялікае кола прагрэсіўнай беларускай моладзі, пазбаўленай пасьля зачыненьня Віленскага унівэрсітэту магчымасьці атрымоўваць вышэйшую адукацыю ў сябе на радзіме.**

**Менавіта ў асяродку гэтай моладзі на пачатку XX стагоддзя й паўстала першая беларуская палітычная арганізацыя - Беларуская Рэвалюцыйная Партыя, у стварэньні якой вялізную ролю адыграў Вацлаў Іваноўскі. На жаль, у гісторыі Беларусі дзейнасьць гэтай партыі амаль не дасьледавана, савецка-беларускія гісторыкі папросту ігнаравалі факт яе існаваньня, паколькі яна была заснаваная Вацлавам Іваноўскім, які з-за свайго "непралетарскага" паходжаньня й свайго трагічнага лёсу не падыходзіў на ролю стваральніка радыкальнага нацыянальнага руху.**

З самых першых дзён свайго знаходжаньня ў Пецярбурзе В.Іваноўскі знаходзіўся ў асяродку сталічных дзеячоў ППС - Мечыслава Міхайловіча, Рамуальда Мільлера і многіх іншых. Ён меў усю інфармацыю пра дзейнасьць ППС, ведаў праграму гэтай партыі, мэты яе дзейнасьці на Беларусі. Ён выдатна разумеў, што ППС далей распаўсюджаньня беларускай літаратуры не ідзе, што гэтая партыя ня выдала самастойна ніводнай агітацыйнай улёткі на беларускай мове й нічога не зрабіла для стварэньня пад сваім куратарствам беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі.

Таму Вацлаў Іваноўскі прыкладаў усе намаганьні для стварэньня ўласнабеларускай палітычнай арганізацыі, якая мела б на мэце дасягненьне незалежнасьці Беларусі.

Такая арганізацыя паўстала, як я ўжо сказаў, напачатку 1902 года на падставе нелегальнага беларускага студэнцкага кола. У гэты час гэтае кола, відаць, было ўжо даволі шырокім, калі змагло пераўтварыцца ў БРП.

У гэтым жа годзе яна прыступіла да выдавецкай дзейнасьці. Ня мела гэтая партыя багатых мецэнатаў, друкарскай тэхнікі, не хапала вопытных публіцыстаў, тым ня менш, гэтыя цяжкасьці былі пераадолены дзякуючы самаахвярнай працы В.Іваноўскага, які нелегальна здабыў друкарскі апарат-цыкластыль, на набыцьцё якога пусьціў усе грошы, зробленыя падчас летняй практыкі. Дапамог яму ў гэтым Мечыслаў Міхайловіч - дзеяч ППС, будучы прафэсар і рэктар Варшаўскага унівэрсітэта.

Першай адбітай на тым цыкластылі публікацыяй БРП была адозва "Да інтэлігенцыі", якая выйшла ў восень 1902 года. Выдадзена яна была на польскай мове, каб спрыяць лепшаму яе засваеньню зпольшчанай беларускай інтэлігенцыяй, да якой была адрасавана адозва. Апрацавана была гэтая адозва В.Іваноўскім.

Наступнай ініцыятывай Іваноўскага была спроба выданьня нелегальнай газэты на беларускай мове пад назовам "Свабода" - воргана БРП. Рэалізацыі гэтай ідэі спрыяла пашырэньне беларускага асяродку ў Пецярбурзе.

Восеньню 1902 года сюды на вучобу прыехалі браты Луцкевічы і Алаіза Пашкевіч. Усе яны прынялі актыўны ўдзел у стварэньні першага нумару газэты.

Мільлер і Валэйка зрабілі ад рукі матрыцы васьмістаронкавага нумару "Свабоды". Затым матрыцы былі прывезены ў Лябёдку, дзе падчас Калядаў былі адбітыя на цыкластылю ў колькасьці двухсот асобнікаў. Працу гэтую зрабілі Вацлаў і Тадэвуш Іваноўскія і Валэйка з братамі Антонам і Станіславам.

На вялікі жаль, да гэтых дзён ня знойдзены ніводны экзэмпляр "Свабоды".

У канцы 1903 года ў беларускім руху яскрава высьветліліся два накірункі: культурна-асьветніцкі й радыкальна-сацыялістычны. Таму замест БРП паўсталі дзьве новыя арганізацыі: Кола беларускай Народнай асьветы й Беларуская Рэвалюцыйная Грамада на чале з братамі Луцкевічамі. Ініцыятарам стварэньня "Кола беларускай Народнай асьветы" стаў Вацлаў Іваноўскі. Кола гэтае было добраахвотным супольніцтвам людзей, аб'ядналых ідэяй арганізацыі выданьня й папулярызацыі беларускай кніжкі. Аднак гэтыя памяркоўныя па сутнасьці мэты не маглі быць рэалізаваныя легальна.

У такіх умовах Іваноўскі прыступіў да станаўленьня сталай выдавецкай справы. Напачатку ён зарганізаваў выданьне беларускіх кніжак за мяжой і нелегальную дастаўку іх на Беларусь.

У выніку у 1903-1904 г.г. дзякуючы намаганьням Іваноўскага у Пецярбурзе й Кракаве выйшла 8 беларускіх кніжак.

Моцным штуршком у справе пашырэньня беларускага друкаванага слова стала аб'яднаньне культурна-асьветніцкай і радыкальна-сацыялістычнай плыняў у беларускім руху ў адзіную палітычную арганізацыю - БСДГ, якая паўстала ў канцы 1904 года. Плённы ўдзел Іваноўскага ў дзейнасьці гэтай партыі выліўся напачатку 1905 года ў масавае выданьне БСГ уласнай літаратуры. У выніку, толькі ў 1905 годзе было выдадзена больш 20 адозваў, напачатку 1906 г. была створана ўласная друкарня ў Менску і сваё выдавецтва "Грамада" у Пецярбурзе. Друкаваная прадукцыя памнажалася ў тысячах асобнікаў. Гэта значна паўплывала на актывізацыю страйкавай дзейнасьці, асабліва на вёсцы.

У канцы 1905-пачатку 1906 г.г. Іваноўскі актыўна працуе над стварэньнем выдавецкага таварыства "Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ". Ужо ў ліпені 1906 г. пад эгідай суполкі выходзяць "Беларускі лемантар, або першая навука чытаньня", сэрыя паштовак, а таксама "Першае чытаньне для дзетак беларусаў" Алаізы Пашкевіч.

Да сакавіка 1908 г. суполка выдала яшчэ шэраг кніг, у тым ліку "Дудку беларускую" і "Смык беларускі" Багушэвіча, "Гапон" Дуніна-Марцінкевіча, "Жалейку" Янкі Купалы.

Дзейнасьць суполкі не абмяжоўвалася выданьнем кніг. Дзеячы суполкі шукалі й распаўсюджвалі са свайго складу кнігі, выдадзеныя раней ў іншых месцах. Суполка наладзіла сувязі з кнігарнямі. Цяпер беларуская кніга стала даступнай, апроч Пецярбурга, у Вільні, Менску, Віцебску, Горадні, Магілёве, Слоніме, Варшаве.

У канцы 1909 г. Іваноўскі запрасіў Купалу ў Пецярбург. Ягоны прыезд значна ўзмацніў суполку, ды й для Купалы супрацоўніцтва было выгодным. Тут, у Пецярбурзе, убачылі сьвет 6 першых кніжак Купалы: "Жалейка", "Адвечная песьня", "Гусьляр", "Сон на кургане", "Паўлінка", "Шляхам жыцьця". У 1908 годзе выйшлі таксама кнігі Дуніна-Марцінкевіча "Вечарніцы", "Шчэроўскія дажынкі", "Купальле", якія суправаджала ўступнае слова В.Іваноўскага "Вінцук Дунін-Марцінкевіч і яго жыцьцё". У 1910 годзе выйшаў падручнік Якуба Коласа "Другое чытаньне для дзяцей беларусаў".

У 1912-1913 г.г. В.Іваноўскі зарганізаваў у Пецярбурзе выданьне нелегальных нумароў часопіса "Маладая Беларусь". У 1913 годзе яны разам з Я.Купалай выяжджаюць у Вільню. Едучы туды, Іваноўскі меў на ўвазе дзьве мэты: заняцца выдавецкай дзейнасьцю й распачаць працу па с/г асьвеце ў беларускай вёсцы. У Вільні Іваноўскі ўзначаліў аддзел Сельскагаспадарчага Таварыства. Ён жа ўзначаліў і створанае 1 ліпеня 1913 года Беларускае выдавецкае таварыства, якое павінна было наладзіць сталы выпуск беларускіх кніг.

Створаныя й кіруемые Вацлавам Іваноўскім выдавецтвы "Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ" у Пецярбурзе і БВТ у Вільні выдалі ў 1906-1915 г.г. 52 кніжкі накладам каля 150 тыс. паасобнікаў. Увогуле ў 1906-1915 гадах пры непасрэдным удзеле Вацлава Іваноўскага ўбачылі сьвет каля 80 беларускіх кніг агульным накладам больш 200 тыс. паасобнікаў. Гэта была палова ўсіх выдадзеных у той час беларускіх кніг, а іх наклад ад агульнага складу больш за 60 працэнтаў.

Дзякуючы намаганьням гэтага піянэра беларускай выдавецкай справы з нябыцьця ўбачылі сьвет найлепшыя творы беларускай літаратуры ХІХ ст., шматлікія пераклады з польскай, украінскай, расейкай літаратур.

Дзякуючы яго намаганьням беларускі селянін упершыню атрымаў спэцыяльную літаратуру на роднай мове.

Уся гэтая дзейнасьць выдатнага сына нашай Гарадзеншчыны дае падставы лічыць Вацлава Іваноўскага адным з выдатнейшых дзеячоў беларускага адраджэньня пачатку XX стагоддзя, якое лягічна вылілася ў абвяшчэньне 25 сакавіка 1918 года незалежнай беларускай дзяржавы - БНР.

**Вітаўт РУДНІК.**

# ПРА СПЭКУЛЯНТАЎ І БЮДЖЭТ ГОРАДА

Днямі бачыў, як з цэнтральнай вуліцы Горадні міліцыянты праганялі бабулек і дзядулек, што гандлявалі яблыкамі й лёдамі. Калі спытаў аднаго з міліцыянтаў, чаму старых праганяюць, то ён адказаў наступнае: "Хай гэтыя гандляры ідуць на торжышча, дзе купяць білет на права заняць месца ў гандлёвым радзе. Ад гэтага выйграе бюджэт горада."

Не пагадзіцца з аргумэнтамі міліцыянта нельга, але калі бачу, як ля шапікаў, што мяняюць валюту, днямі стаяць гандлярымахляры й налева-направа гандлююць валютай і пры гэтым ня маюць аніякіх турботаў, то таксама паўстае пытаньне пра бедны бюджэт Горадні й тых, хто за яго так турбуецца.

**Р.ПІЛЬНЫ.**

# ЗАМЕСТ ПЛЯШКІ ПРАПАНУЮЦЬ ЭТЫКЕТКУ

Апошнім часам гарадзенскія міліцыянты часта завітваюць на гандлёвыя рады, што знаходзяцца ў розных кутках горада, іншы раз па некалькі разоў на дзень. Асаблівую ўвагу яны зьвяртаюць на тых, хто прадае тытунёвыя вырабы й моцныя напоі, бо рабіць гэта без адпаведнага дазволу забаронена. Але гандляры знайшлі выйсьце: не выстаўляюць на прылавак пляшкі, а кладуць толькі этыкеткі ад іх, маўляў, каму трэба, той зразумее. І ні чым не рызыкуюць, бо тавар трымаюць у торбах пад лавамі.

**А.Д.**

# ПЕРШЫЯ ЛАСТАЎКІ

Зайшоў на днях да крамы N 5 па вуліцы Савецкай, што ў Горадні. Папрасіў сталую крамніцу зважыць грамаў 200 каўбасы. Калі на стол быў кінуты мой набытак, я папрасіў запакаваць яго. Крамніца, нядоўга думаючы, сказала: "І так закусіш". Крыўдна стала мне ад такой зьнявагі, хацеў пратэставаць, але падумаў - навошта? Можа, ўдасца й мне дажыць да тых часоў, калі не па тэлевізары буду бачыць выдатнае заходняе жыцьцё, а адчую яго ў любой краме горада.

Ёсьць у нас "першыя ластаўкі" - гэта прыватныя крамы, і чым іх будзе больш, тым нам, пакупнікам, будзе лепей.

**В.СЕГІНЬ, Горадня.**



МЯЧЭЦЬ У НАВАГРАДКУ.

Са здымка 30-х гадоў.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

